© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

Год. XXXI Но. 301-302 Нью Ёрк—чырвень-ліпень—1982—June-July—New York Vol. XXXI № 301-302

# ЯНКА КУПАЛА

**(8. VII. 1882 — 28. VI. 1942)**

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў зь цемры да сьвятла.
**Я. Купала, верш „За ўсё..."**
1926 г.

На сёлета прыпадаюць падвойныя купалаўскія ўгодкі: нарадзінаў і сьмерці. Сто гадоў таму ў в. Вязынцы, што напоўдарозе ад Маладэчна да Менску, нарадзіўся ў сям'і Дамініка й Бэнігны Луцэвічаў хлопчык, якога назвалі Янкам. Сорак гадоў таму ў Маскве ў нявысьветленых абставінах загінуў волат беларускага духу, Пясьняр Беларусі Янка Купала. Паміж гэтымі дзьвюма біялягічнымі здарэньнямі праляга эпапэя духу, якую мы ведаем як жыцьцёвы й творчы шлях Янкі Купалы, зь ягонай вулканічнай апантанасьцяй доляю Забранага Краю.

Кім сёньня для нас Янка Купала найперш і найбольш? Чым вызначаецца ягоная надзённасьць і ягоная ўзьдзейвальная сіла, ягонае цэнтральнае месца ў культурным набытку Беларусі, у нашым духовым сусьвеце?

**Купала — гэта дух нашага бунтарства:**

Годзе нам сілу прыблудаў
вялічыць
Дзецьмі, багацьцем радзімай
зямлі!
Нашы загоны даўно ўжо нас
клічуць,
Нашы загоны, што зельлем
зрасьлі.
***
Будзь сьмелым!.. Магутна
ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх вядучы!

**Купала — гэта нашае змаганьне за людзкія правы й правы Нацыі:**

Падымайся зь нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над
нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад
між народамі!..

**Купала — гэта нашае вязьмо з Бацькаўшчынай і нашае сумленьне:**

І няма на сьвеце так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных
дзьвераў,
Каб хоць на часіну, ў будні
ці ў нядзелі —
Беларусь са мною разлучыць
пасьмелі!

Пра верш „Я ад вас далёка..." 1910 году, зь якога ўзятая гэтая зваротка, Пімен Панчанка з рацыяй сказаў, што яго „можна паставіць упоравень з шэдэўрамі Пушкіна й Шэкспіра" („ЛіМ", 7.VII.72).

Кампазытар Мікола Куліковіч напісаў прыгожую музыку на словы гэтага вершу. Песьня шырака выконваецца ў замежжай, але не ў савецкай Беларусі дзе таксама гэты верш мог-бы быць пакладзены на музыку.

**Купала — гэта нашая гістарычная памяць:**

Табе, народ мой, зьгібнуты
ў вяковах,
З-пад сэрца песьню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну
нанова,
Выказваю цяперашчыну тваю.

Тэма мінуўшчыны ў Купалавай творчасьці мала дасьледаваная, а ў савецкай купалаведзе выкрыўленая пад партыйную догму, якая цьвердзіць, што бальшавіцкі Кастрычнік упяршыню, быццам-бы, даў беларускаму народу дзяржаўнасьць.

Хоць Купала й пісаў што „Мы ня жылі, як жывуць людзі, Гасьцінцам шчасьця не хадзілі..." (у сацыяльным пляне апошнімі стагодзьдзямі гэтак яно й было), беларуская мінуўшчына полацкае й вяліка-княскае пары была усё-ж для Купалы крыніцаю натхненьня й маяком надзеі на будучыню:

На Бацькаўшчыне Купалы йдзе сёньня працэс усьмерчваньня народу — працэс русыфікацыі, якая прашмуглёўваецца за зманлівым фасадам беларуска-расейскага двумоўя. У гэтай вайне за родную мову, за народную душу Беларусі, Янка Купала, хоць і ня ўвесь даступны народу свайму, каб зваць



**Янка Купала ў 30-гадовым веку (1912 г.)**

Ты жыў, ты панаваў у
краі родным,
Сьцярог ад чужака й законы
укладаў;
Звон вечавы сход склікаваў
народны,
І сход аб шчасьці Бацькаўшчыны
дбаў.

Гэткую-ж абнадзейвальную функцыю што да будучыні выконвае мінуўшчына Беларусі і ў нашым сьветаглядзе.

**Купала — гэта духовая свабода Беларуса:**

Дарэмна сьвістамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акулі рукі ў кайданы.
Душой я вольны чалавек
І гэткім буду цэлы век!

Няма дарэвалюцыйнага й пярэвалюцыйнага Купалы, гэтак, як ёсьць дарэвалюцыйны й савецкі пэрыяды ў гісторыі беларускай літаратуры. Ёсьць Купала вольны й Купала зламаны.

Год бальшавіцкага перавароту ня быў для Купалы рэвалюцыйным годам. Купала жыў не адно рэвалюцыяй — рэвалюцыі абмежаныя часам; ён жыў **свабодай** Беларусі — катэгорыяй вечнай.

Бальшавіцкі 1917-ты Купала адкідае ад сябе, як вяху, бунтарным 1926-ым, калі йшчэ творчы вулкан паэтавае душы выбіваў зь сябе ляву абароннага праклёну:

Каб вады гарачай
На таго нагрэлі
І ня ўстаў ён болей
Са сваёй пасьцелі, —

Хто над Беларусяй
Хоча распасьцерці
Свой бізун чужацкі
І народ усьмерціць.

Верш „Каб..." не бяз прычыны належыць да ліку забароненых на Беларусі!

„з путаў на свабоду", застаецца наймагутнейшым апірышчам, найвярнейшым саюзьнікам, найглыбейшай крыніцай маральнае пэўнасьці ўсіх Беларусаў у справядлівасьці справы абароны нашае нацыянальнае культуры.

**Купала — наш ратунак і нашая будучыня.**

---

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

15-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбудзецца сёлета ў канцатыдні амэрыканскага Сьвята Працы (Лэйбар Дэй) у сыботу-нядзелю-панядзелак **4-5-6-га верасьня ў гор. Нью Бранcьвіку,** штат Нью Джэрзі (60 міляў ад гор. Нью Ёрку) ды будзе прысьвечаная

## 100-ГОДЗЬДЗЮ АД НАРАДЖЭНЬНЯ КУПАЛЫ Й КОЛАСА

**У праграме:**

**Сыбота, 4 верасьня** — банкет, канцэрт, баль (усё адбудзецца ў Гальдэй Інн у Норт Брансьвіку, куды даяжджаецца: зь Нью Джэрзі Тэрнпайк брацЬ 9-ты выезд на дарогу нр. 18, па 18-цы ехаць на захад да дарогі нр. 1, па адзінцы ехаць на поўдзень і, параехаўшы дарогу нр. 130, адразу паварот направа ў Гальдэй Інн). Тэлефон: 201-246-2800.

**Нядзеля, 5 верасьня** — 10-я гадз. ураньні, багаслужба ў царкве БАПЦ Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд Парку ў Нью Брансьвіку (9 Рывэр Роўд, тэл.: 201-247-4490), супольны абед у падцаркоўнай залі, сымпозіюм (там-жа).

**Панядзелак, 6 верасьня** — нарады, разьвітаньне.

УСІХ ВЕТЛІВА ЗАПРАШАЕМ!

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Згуртаваньне Беларусаў Канады**

---

**Янка Купала**

**БЕЛАРУШЧЫНА**

Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая,
Зарастаючы зельлем чужым, як лазой, сеножаць,
Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая,
А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад;
Ажно часам жальба, як кляцьба, разьлягалася,
Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.

Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі, —
Што памерла ўжо ты, — не адзін так казаў чалавек.

Час ішоў. К жыцьцю новаму клікі пачуліся;
Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.
Ты — як спала — ўскрасла, тваё дзеці прачнуліся,
Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыцьцё.

І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,
Хоць пад права тваё падрываецца шмат хто, як крот, —
Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:
Зразумеў і успомніў цябе твой мільённы народ.

Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю;
Панясуцца, як звон, песьні вольныя, родныя,
Апяваючы долю, нядолю, народзе, тваю.

1908

**(Верш гэты забаронены сёньня на Беларусі)**

---

# ЯНКА КУПАЛА Й КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Янка Купала агульна вызнаны ідэёляг беларускага нацыянальнага адраджэньня й духовы правадыр беларускага народу, застаўся верным нацыянальнай ідэі і ў першых гадох пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Падобна як і Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля дый іншыя нашаніўцы, Янка Купала супрацьстаўляў Кастрычніцкай рэвалюцыі нацыянальную рэвалюцыю беларускага народу, што разгорталася тады на Беларусі. Гэткая ідэйная пазыцыя Купалы найярчэй была выказаная ў прагарамных ягоных творах 1918-1922 гадоў „На сход", „Свайму народу"*, „Крыўда", „Паўстань з народу нашага, Прарок", „Перад будучыняй" ды некаторых іншых тагачасных, а таксама й пазьнейшых ягоных творах. Усе гэтыя творы сяньня пад цэнзурнай забаронай, за выняткм вершу „На сход", у якім, хоць ён і зьявіўся ў апошнім Купалавым „Зборы твораў" 1961-62 гадоў, усё-ж выкінутае найбольш важнае двухрадкоўе.

Беларуская савецкая купалаведа мае цімала клопатаў з гэтымі Купалавымі творамі. Хоць творы гэтыя й недаступныя сяньня чытачу, прамоўчаць іх усё-ж нельга. Затым савецкія купалаведы змушаныя пра гэты пэрыяд Купалавае творчасьці цьвердзіць і даводзіць тое, чаго давесьці нельга, ды рабіць высновы, якім пярэчаць гэтыя творы.

Гэтак, прыкладам, у выдадзенай летась (г. зн., 1971 г. — Рэд.) кнізе Міхася Яроша „Янка Купала і беларуская паэзія" Купалаву ідэйную пазыцыю гэных гадоў аўтар зводзіць адно да часовых ідэйных супярэчнасьцяў і хістаньняў. А тлумачыць ён гэныя супярэчнасьці й хістаньні або часовым неразуменьнем у паэта складанасьцяў часу, або рэакцыяй на пачатковую няўвагу камуністычнае партыі да нацыянальных патрэбаў Беларусі, або някрытычна прыйманым уплывам беларускіх нацыяналістаў.

Тымчасам выказаныя ў гэных творах ідэі — арганічны й пасьлядоўны працяг у новых гістарычных абставінах нашаніўскае ідэялёгіі, найвызначнейшым носьбітам якое быў Янка Купала, ды яшчэ большае паглыбленьне ідэі нацыянальнага адраджэньня і ейны пераход у ідэю вызваленьня.

Гэтак, у згаданым вершы 1918 году „На сход" Купала заклікае беларускі народ „на сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход", што быў для паэта алегарычным вобразам нацыянальнае рэвалюцыі, каб на гэтым сходзе народ „далажыў і расказаў",

Як гналі пот зь цябе паны
і каралі,
Як гналі проч з радзімае зямлі.

У наступным двухрадкоўі Купала заклікаў народ расказаць,

І як крываўляць раскаваныя
рабы,
Як ты ўпадаеш зь непасільнай
барацьбы.

Гэтае двухрадкоўе ў згаданым Купалавым „Зборы твораў", хоць і паданое ў камэнтарох на канцы кнігі, з самога тэксту верша выкінутае. А тымчасам выкінутае двухрадкоўе ставіць гэных „раскаваных рабоў" — тварцоў Кастрычніцкае рэвалюцыі, бальшавікоў, у адзін рад з „панамі й каралямі" ды „царамі", якія паняволены імі беларускі народ „гналі проч з радзімае зямлі".

А вось Іван Навуменка ў сваёй працы 1967 году „Янка Купала — духоўны вобліК гэроя", працытаваўшы Купалаў верш „На сход" бяз гэнага двухрадкоўя, уважаў за магчымае цьвердзіць, што верш гэты становіць „пераацэнку ідэйных, духоўных каштоўнасьцяў" паэта ў кірунку прыняцьця ім ідэяў Кастрычніка.

Ацэнку Кастрычніка, выказаную ў вершы „На сход", паўтарыў Купала і ў вершы таго-ж 1918 году „Крыўда", не перадрукоўваным у ягоных „зборах твораў" апошніх гадоў. Тут паўтораны ды яшчэ больш разьвіты той-жа вобраз „раскаваных раба", які „сябе выдаў" тым, што зь ягоным прыходам у гісторыю „ня ўзьнёсься ўвысь дух чалавечы".

Ідэю беларускай нацыянальнай рэвалюцыі асабліва выразна сканкрэтызаваў Купала ў вершы „Свайму Народу", напісаным таго-ж самага дня, што й верш „На Сход" — 29 кастрычніка 1918 году.

Прыгадаўшы беларускаму народу

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# АЛЕСЬ САЛАВЕЙ, ЯКІМ Я ЯГО ПАМЯТАЮ

**Ад Рэдакцыі:** З удзячнасьцяй зьмяшчаем тут успамін Ігара Качуроўскага, украінскага паэта й літаратуравэда.

**

Пад восень 1946 году я прыехаў з Карынтыі наведаць Зальцбург,



**На здымку (зьлева): Алесь Салавей, украінскія паэты Барыс Аляксандраў і Ігар Качуроўскі.**

што быў тады цэнтрам украінскага культурнага жыцьця ў Аўстрыі: там жыло колькі пісьменьнікаў, дзеяў лягерны тэатрык, выходзілі газэты, існавала выдавецтва Пятра Валыняка ды пачынала сваю працу нядаўна заснаваная Супалка Украінскіх Навукоўцаў, Літаратараў і Мастакоў. А галоўнае — тут пасяліўся мой асабісты прыяцель і літаратурны аднадумец, малады паэта Барыс Аляксандраў, які толькі-што выдаў быў свой першы зборнік. Ад Барыса я даведаўся, што найцікнейшая прыязьнь вяжа яго не зь землякамі-Украінцамі, а зь беларускім паэтам Алесем Салаўём.

Алесь быў маладзейшы за нас гадамі, а выглядаў старэйшым дзеля акуляраў і шызага ад галеньня падбародавіча (з тых падбародавічаў, што іх трэба галіць двойчы — уранні і ўвечары...). Зрэшты, ён быў старэйшы таксама і жыцьцёвым ды літаратурным дазнаньнем: быў жанаты, а першы зборнік пасьпеў выдаць ужо два гады таму (а я яшчэ ня выдаў тады ніводнага).

Перш за ўсё мы наладзілі літаратурны вечар у адным з украінскіх лягераў Зальцбургу. Выступалі ўсе трох з чытаньнем сваіх вершаў. Што да мастацкай якасьці, вершы сталлі прыблізна на адным узроўні, але чытаў найлепш з нас трох якраз Алесь. На спосабе ягонага чытаньня не адбілася модная ў Савецкім Саюзе манера Качалава-Станіслаўскага — чытаць вершы, як прозу, ставячы найбольш ідыёцкія лягічныя націскі. Алесь-жа выразна акцэнтаваў рытмаструктуру вершаў — так што ўяўленьне слухачоў плыло за ім на хвалях рытму.

З часам мы паўтарылі яшчэ колькі разоў гэткія супольныя паэтычныя выступы. Гэтак, мы наладзілі літаратурную раніцу ў лягеры Сан Мартын ля Філяху, дзе я тады жыў, ды вечар у Зэебодэне над Мільштацкім возерам.

У гутарках з Алесем я ўпяршыню пачуў прозьвішчы колькіх дзеячоў беларускай культуры, што апынуліся на Захадзе: Юрка Віцьбіч, Натальля Арсеньнева, Ант. Адамовіч, Рыгор Крушына, Масей Сяднёў. Між іншага, у Зальцбургу жыў тады яшчэ адзін беларускі паэта, але мы зь ім знайшлі няшмат супольнага, бо нарожным каменем свайго існаваньня ён клаў адну толькі праблему: „Як-бы гэта выпіць?"

Зрэшты, мы з Барысам і Алесем таксама былі не ад таго, каб часам перакуліць чарку, але гэта было дзесьці „на маргінэсе" (як кажуць галічане), а зацікаўленьні нашыя засяроджваліся галоўна на толькі-што выдадзеных кніжках украінскіх і беларускіх аўтараў, на часапісных і газэтных публікацыях апавяданьняў і вершаў, на новых прозьвішчах, якія раз-пораз зьяўляліся на даляглядзе нашага пісьменства, што перажывала кароткатрывалы лягерны росквіт.

Якраз у тых гадох разгортвалася трэцяя з парадку ў гісторыі ўкраінскага пісьменства літаратурная дыскусія, якая хвалявала не толькі крытыкаў і пісьменьнікаў, але й шырокія колы спажыўцоў мастацкага слова.

(Першая гэткая дыскусія паўстала недзе напярэдадні Першай сусьветнай вайны паміж „радзянамі", якія трымаліся расейска-народніцкага, утылітарнага разуменьня літаратуры, і „хацянамі", што стаялі на пазыцыях заходняэўрапейскага мадэрнізму. Другая дыскусія пачалася ў сярэдзіне 20-ых гадоў, калі Хвылёвы кінуў лёзунг арыентацыі на эўрапейскую культуру, намагаючыся адарваць украінскае пісьменства „ад задрыпы-Масквы" ды вызваліць яго ад рысаў правінцыйнасьці.)

Дыскусія лягернага пэрыяду ўспалыхнула паміж невялічкаю групаю прыхільнікаў украінскага парнасізму (прадстаўленага ўпаасобку ў творчасьці кіеўскіх нэаклясыкаў) і прыхільнікамі „нацыянальна-арганічнага стылю", якія ўздымалі на шчыт творчасьць некаторых літаратараў, што былі й засталіся для нас „самазванцамі ў літаратуры".

Каротка кажучы: нашыя сымпатыі былі тады на баку Дэржавіна, Клэна й Орэста, што выступалі як прыхільнікі нэаклясычных традыцыяў.

Алесь, які балюча адчуваў невыстачальнасьць свае асьветы, прагна хапаў веды ў галіне літаратуразнаўства (якія, дарэчы, Барыса Аляксандрава аніяк ня цікавілі).

Літаратурным узорам для Алеся быў беларускі парнасісты Максім Багдановіч, які й для мяне стаўся „вечным спадарожнікам". Варта зьвярнуць увагу на глыбінную сродпасьць творчасьці Багдановіча й згаданых тут кіеўскіх нэаклясыкаў: адзін зь іх, Міхайла Драй-Хмара, пераклаў у ўкраінскую мову больш за 40 Багдановічавых вершаў.

Не пашкодзіць згадаць, што й нэаклясыкам да пэўнай меры заўдзячваў Алесь сваё фармальнае вышкаленьне: прыкладам, у Зэрова запазычыў ён дванаццацірадковую александрыну.

Пра няхібны эстэтычны густ Алесеў сьветчыць гэткі выпадак. У 1947 г. на балонах украінскіх часапісаў і газэтаў пачалі зьяўляцца вершы Парфіра Горатака (упаасобку, у „Літаўрах" — органе супалкі УНЛМ — мы прачыталі падпісаныя гэтым прозьвішчам дзьве рэчы: „Абтокавую баляду" і „Таямнічую мілэды"). Казалі, што Горатак нарадзіўся на Далёкім Усходзе, а адтуль, пасьля шэрагу прыгодаў, трапіў у Аўстрыю. Па руках хадзіў машынапісны зборнік Горатаковых вершаў, якія выклікалі захапленьне двух ведамых украінскіх літаратуразнаўцаў, — Івана Кашэлюца і Юр'я Дыўніча (Лаўрыненкі). У часе свайго чароднага візыту ў Зальцбург я папытаўся сваіх сяброў, ці хто знае таго Горатака асабіста.

— А хто бачыў Казьму Пруткова? — адказаў Алесь.

І запраўды: неўзабаве мы даведаліся ад Пятра Валыняка, у выдавецтве якога друкаваўся Горатакоў зборнік, што гэта — літаратурная містыфікацыя, а хаваюцца за псэўданімам „Парфір Горатак" Клэн з Мосэндзам...

Аднойчы ў гутарцы з Барысам я выказаў думку, што перад Алесем — вялікая будучыня ў паэзіі.

— Каб-жа не ягоныя дзівацтвы... — кінуў Барыс.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? Якія дзівацтвы?

— Будзеш мець нагоду пераканацца...

Нагода не дала на сябе доўга чакаць. Неяк у прысутнасьці Алеся мы з Барысам разьбедаваліся, што замяж рамантычных чупрынаў нам абодвум неўзабаве давядзецца сьвяціць празаічнымі лысінамі. А вось Алесю зь ягонымі моцнымі, драцяністымі валасамі, такая небясьпека, бач, не пагражае. Кажны з нас, і Барыс, і я, былі-б ня супраць памяняцца чупрынамі з Алесем.

Алесь маўчаў. А назаўтрае зьявіўся ... з паголенай галавою ...

Іншым Алесевым дзівацтвам было падпісваць толькі-што напісаныя творы задняй датай: быццам гэта напісана яшчэ тады, як ён рыхтаваў да друку першы зборнік. І паўставала пытаньне: чаму-ж ён даў у той зборнік некаторыя яшчэ зялёныя, не цалком дасьпелыя рэчы, а найлепшых ня даў?

Апошні раз бачыў я Алеся недзе ў жнівені ці верасьні 1948 году. Клэна ня было ўжо сярод жывых. Часапіс „Літаўры" спыніў існаваньне, масы ўкраінскіх чытачоў раставалі на вачох: усё сунула за акіян, і ўсе думкі ськіваваныя былі толькі ў вадным кірунку: куды ехаць ды што нас там чакае. У гэты, найбольш неадпаведны час, выйшаў мой першы зборнік („Над сьветлай крыніцай"), якога ўжо ня было каму чытаць.

Барыс, які заўсёды раней быў абкружаны зграйкай дзяўчатаў і маладзіцаў — прафэсар Главінскі называў іх Барысовымі музамі, — быў цяпер, як кажуць, насьмерць закаханы ўваднэй букавінцы, якая засталася найбольшым каханьнем ягонага жыцьця ды якой ён прысьвяціў ці не найлепшыя свае вершы. Ягонае захапленьне перадалося і мне — яна і мне пачала здавацца няземнай істотай.

— Звычайная дзяўчына! — сказаў пра яе Алесь.

Гэтак з часам і выявілася...

Алесь жыў ужо ня ў „Легенэрказэрнэ" (дзе меў на падстрэшшы малюсенькі, але асобны пакойчык), а ў нейкім лягеры за горадам, дзе ў вялізнай залі туліліся каля тузіну сем'яў. Не бяз горычы Алесь сказаў мне, што Барыс так і не ведаў яго на новай кватэры...

У тыя дні мы разьвіталіся з Барысам, які выяжджаў у Канаду. Неўзабаве і я адплыў у Аргентыну, а Алесь — у Аўстралію.

З Барысам мы ліставаліся аж да ягонай трагічнай сьмерці; ад Алеся я меў колькі лістоў, а ў вапошнім зь іх яшчэ раз выявілася Алесева дзівацтва: ён прасіў ня пісаць яму на працягу двух гадоў, бо ён усяроўна адказваць ня будзе.

Я адпісаў і тады, і пасьля двух гадоў — але адказу ніколі ўжо не атрымаў. Зварачаўся я й да Барыса, ці яму што ведама пра Алесеву долю, але Барыс пісаў чыста лірычныя лісты, і на ніякія канкрэтныя запыты ніколі не адказваў...

Гэтая жменька ўспамінаў уцалела ў маёй памяці, калі я атрымаў кніжку „Нятускная краса" — пасьмяротны зборнік майго калішняга прыяцеля...

**Ігар Качуроўскі**

# ПАМЯЦІ АЛЕСЯ САЛАЎЯ

Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі (Аўстралія) адзначыў у нядзелю 2-га травеня сёлета 60-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня паэты Алеся Салаўя (Альфрэда Радзюка-Кадняка).

Сьв. пам. А. Радзюк-Калняк (літаратурны псэўдонім — Алесь Салавей) нарадзіўся 1-га травеня 1922 г. ў вёсцы Крысава каля Койданава (сяньняшні Дзяржынск) на Меншчыне і ўжо ў юнацкіх гадох выявіў паэтычныя здольнасьці. Аўтабіяграфію Алеся Салаўя, дапоўненую ўспамінамі зь ягонага пазьнейшага жыцьця, прачытала ўдава Паэты сп-ня Зіна Кадняк. Мы пачулі шмат вельмі цікавых дэталяў з жыцьця Алеся Салаўя, нам дагэтуль ня ведамых, за што сп-ні Кадняк нашая вялікая ўдзячнасьць.

Сп. М. Скабей, найбліжэйшы прыяцель А. Салаўя, шырой затрымаўся на творчасьці Паэты. Абодвы выступленьні былі пераплятаныя дэклямаваньнем Салаўёвых вершаў (дэклямавалі: М. Скабей, Ул. Сідлярэвіч, В. Шайпак, А. Калодка).

З касэты, найгранай колькі гадоў таму, праслухалі Паэтава чытаньне ім-жа напісаных вершаў. Зь вялікай увагай была праслуханая дэклямацыя з магнітафону твору „Зьвіняць званы Сьв. Сафіі", прысланая калісьці др. Я. Запруднікам з ЗША.

Беларусы Мэльбурну высока цэняць памяць нашага вялікага Паэты. У вялікай меры яны прычыніліся, між іншага, і да выданьня зборніка А Салаўя „Нятускная краса", што выйшаў з друку ў выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Зь вялікай нецярплівасьцяй чакаем яго ў Мэльбурне.

Беларускаму Цэнтральнаму Камітэту ў Вікторыі, сп-ні Зіне Кадняк, сп. М. Скабею, а таксама дэкляматарам і ўдзельнікам урачыстасьці належыцца нашая шчырая падзяка.

**А. К-а**

# СЬВ. ПАМ. ДР. Я. МАЛЕЦКІ

6-га чырвеня сёлета на 76-ым годзе жыцьця памёр у Сыднэі (Аўстралія) др. Язэп Малецкі.

Я быў знаёмы зь Нябожчыкам яшчэ зь Вільні, але лепш пазнаў яго тут, у Аўстраліі. Дзеля таго, што мы жылі далёка адзін ад аднаго, дык бачыліся рэдка, але калі ўжо спатыкаліся — гутаркам ня было канца. Тэмай былі і ўспаміны зь мінулых год і, перш-наперш, грамадзкія справы.

Др. Язэп Малецкі нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Якузы каля Друі. У Друі скончыў гімназію, а пазьней — мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Беларускую нацыянальную сьведамасьць ды любасьць да ўсяго роднага прышчапілі яму ягоныя бацькі, паглыбілі беларускія айцы Марыяне. Зь вялікай удзячнасьцю згадваў Язэп Малецкі свайго настаўніка й апякуна Язэпа Гэрмановіча, фатаграфію якога з прысьвятаю ён заўсёды насіў пры сабе.

Прыехаўшы ў Аўстралію, др. Малецкі зрабіў настрыфікацыю лекарскага дыплёму, што дало яму права лекарскае практыкі. Як лекар быў вельмі працавіты, але не прагавіты. Зарабляў, як і ўсе аўстралійскія лекары вельмі добра. Гадоў шэсьць таму перайшоў на пэнсію. Яшчэ працаваўшы лекарам, цікавіўся беларускай грамадзкай працай ды браў у ёй вельмі актыўны ўдзел. Між іншага, ён быў адным зь ініцыятараў заснаваньня Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі ды ейным першым старшынём, быў таксама старшынём аўстралійскага сэктару Рады БНР.

З гледзішча фінансавага быў вельмі ахвярным, асабліва на выдавецкія й культурныя мэты, чаго нельга напісаць аб іншых трох лекарох-Беларусах із старэйшага пакаленьня, якія знаходзяцца ў Аўстраліі. Ніхто зь іх ніякага ўдзелу ў беларускім грамадзкім жыцьці не бярэ і вырваць ад іх нейкі даляр на выдавецкія ці культурныя мэты трэба мець шмат спрыту й страціць шмат часу. На вялікі сорам, двух зь іх — былыя гадунцы Беларускае гімназіі.

Сьмерць д-ра Язэпа Малецкага, шчырага беларускага патрыёта й грамадзкага дзеяча — гэта вялікая страта для Беларусаў, асабліва для жменькі беларускае інтэлігенцыі ў Аўстраліі.

Няхай Яму будзе лёгкай вольная аўстралійская зямелька ды няхай сьніцца Яму прыгожая вазёрная Друйшчына.

**А. Калодка**

# ФОНД АБАРОНЫ АД ПАКЛЁПАЎ

Беларуска-Амэрыканская Кааліцыя Супрацьдзеяньня Паклёпам (Byelorussian-American Anti-Defamation Coalition, у скароце — BAADC) патрабуе Вашае грашовае дапамогі на пашырэньне інфармацыі пра Беларусь пэрыяду Другое сусьветнае вайны ў сувязі з паклёпамі, якія пашыраюць на Беларусаў Амэрыкі дый Беларусаў наагул некаторыя асобы й органы масавае інфармацыі (гл. газ. „Беларус" № 300, травень 1982 г.).

Беларуска-Амэрыканская Кааліцыя ўжо выдала й разаслала мэмарандум у гэтай справе ды рассылае адбітку англамоўнае старонкі папярэдняга нумару „Беларуса". Плянуецца таксама выданьне брашуры з матар'яламі аб г. зв. „нацыстаўскіх сувязях" ды аб рэакцыі савецкае прапаганды на дзейнасьць беларускае палітычнае эміграцыі.

Памятайма, што шмат якія прыхільныя да нас людзі, якія ня ведаюць праўды пра нас, ня выступяць у нашую абарону, пакуль не пачуюць пра факты ад нас самых.

Наш адрас:
BAADC
Box 510
Manhasset, N. Y. 11030
U.S.A.

**Беларуска-Амэрыканская Кааліцыя Супрацьдзеяньня Паклёпам**

# МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

**Гаварыць пабеларуску — крайнасьць**

На Беларусі, кажа Мітрапаліт, ён ведае пра аднаго каталіцкага ксяндза, які з прынцыпу гаворыць казані пабеларуску, чым выяўляе сваю нацыянальную крайнасьць. Ведае Філарэт таксама й пра аднаго каталіцкага ксяндза, які з прынцыпу карыстаецца польскаю мовай, але, кажа Ўладыка, наўдачу, ці беларускія вернікі разумеюць таго ксяндза.

Філарэтавы выказваньні пра беларускую мову паказваюць на дзівугодную няўвагу галавы Беларускае (нефармальнае) Мітраполіі да таго, што адбываецца сёньня на Беларусі ў моц савецкае афіцыйнае палітыкі: пэўнае культываваньне беларускае мовы, адзначаньне юбілеяў і ўгодкаў, зьвязаных з разьвіцьцём і станаўленьнем нацыянальнае мовы, у тым ліку й сёлетнія юбілеі Купалы й Коласа, што праводзяцца з даволі шырокай праграмай, хай сабе й падагнанай пад ідэялягічна-палітычныя вымогі савецкае ўлады. У афіцыйных савецкіх сродках масавае інфармацыі падчыркваецца разьвітасьць і багатая гістарычная традыцыя мовы Беларусаў.

**Высновы**

З усяго гэтага даводзіцца зрабіць выснову:

1. Або Мітрапаліт „Менскі й Беларускі" Філарэт ня ведае й ведаць ня хоча пра беларускую нацыянальную культуру ў БССР, і калі так, дык ён гэтым яшчэ раз падчырквае чужароднасьць маскоўскага праваслаўя на Беларусі, імпэрыялістычны характар гэтае рэлігіі ды ейную калянізатарска-этнацыдную існасьць;

2. Або Мітрапаліт „Менскі й Беларускі", ведаючы пра культурнае багацьце Беларусі ды прывязанасьць Беларусаў да свае багатае мовы, сьведама дапамагае бязбожным савецкім русыфікатарам Беларусі мэтадам пашыраньня на Захадзе дэзынфармацыі аб тым, што Беларусы, быццам-бы, не шануюць і не бароняць свае роднае мовы ды імкнуцца чуць расейскую мову ў тых праваслаўных цэрквах, якіх улада яшчэ не паперарабляла ў атэістычныя музэі, канцэртныя залі ды складзішчы.

У тым і ў другім выпадку гэта роля нягоднага чалавека, які кажа што ён верыць у Бога, у справядлівасьць ды ў хрысьціянскае міласэрдзе.

Праваслаўныя ў савецкай Беларусі мусілі-б дамагацца, каб Мітрапаліт Менскі й Беларускі быў Беларус, які не абражаў-бы нацыянальных пачуцьцяў сваіх падапечных, які не называў-бы „штучнай" мову, што прыйшла да нас ад сьв. Еўфрасіньні Полацкае й сьв. Кірылы Тураўскага, ад перакладніка Біблії Францішка Скарыны й абаронцаў гэтае мовы Васіля Цяпінскага, Мялета Сматрыцкага ды сотняў тысячаў іхных пасьлядоўнікаў праз усе стагодзьдзі, у тым ліку Якуба Коласа й Янкі Купалы.

**Аркадзь Будзіч**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## МАЯ СУСТРЭЧА ЗЬ ЯКУБАМ КОЛАСАМ

Маё знаёмства зь Якубам Коласам пачалося яшчэ задоўга да сустрэчы зь ім — ад чытаньня ягоных твораў, калі ў 1922 годзе, вучнем другое клясы сямігодкі, я навучыўся чытаць пабеларуску. Тады запоем, як кажуць, чытаў ягоныя вершы, што друкаваліся ў школьных чытанках „Роднае Слова" С. Некрашэвіча, а таксама ў часапісах „Зоркі" і „Полымя" ды выдаваліся асобнымі кнігамі, якія траплялі ў школьную бібліятэку.

Сама-ж сустрэча з жывым Якубам Коласам адбылася зусім неспадзявана й нечакана.

У 1935 годзе з пачатковае школы, дзе я працаваў настаўнікам і адначасова вучыўся на завочным аддзяленьні Аршанскага Настаўніцкага Інстытуту, Аддзел Народнае Асьветы Бабруйскага раёну ськіраваў мяне ў вадну зь сярэдніх школаў раёну выкладчыкам беларускае мовы й літаратуры ў клясах 5-7. Знаходзілася гэтая школа недалёка ад вёскі Пабокавічы (у тым часе гэта былі хутары), дзе нарадзіўся пісьменьнік Платон Галавач, аб чым, бязумоўна, ведалі вучні гэтае школы.

З пачаткам заняткаў у школе, я даведаўся, што ў ёй існуе літаратурны гурток імя Платона Галавача. У гурток уваходзілі вучні 8-10 клясаў, якія спрабавалі свае здольнасьці ў літаратуры, зьмяшчаючы свае творы ў рукапісным часапісе (назоў ягоны я ўжо забыўся). Арганізатарам і старшынём гуртка быў родзіч Платона Галавача. З пэўных прычынаў не называю ягонага прозьвішча, як і прозьвішчаў гуртоўцаў. Скажу толькі, што з тых, хто належаў да гуртка, у часапісе „Полымя" я спаткаў толькі адно прозьвішча, але не як паэта ці пісьменьніка, а як журналіста.

Як пачынаючы паэт, які ўжо выдрукаваў некалькі сваіх вершаў у раённай і акруговай газэтах, я далучыўся да гуртка. На першай-жа зборцы гуртка, на якой я быў, гуртоўцы абралі мяне за свайго кіраўніка й рэдактара часапісу.

А раньняй вясною 1936 году мне пашчасьціла сустрэча асабіста з чалавекам, чыё імя насіў гурток, якім я кіраваў — з Платонам Галавачом, а таксама і зь Якубам Коласам.

Аднае з сыботаў я надумаўся паехаць у Менск, каб у ГУМе (Государственный Универсальный Магазин) купіць сабе чаравікі, бо ў Бабруйску купіць іх было немагчыма. Прыехаў я ў Менск у нядзелю раніцою. На дварэ яшчэ толькі-толькі пачынала сьвітаць. Ісьці ў горад было бязмэтна, бо да адчыненьня магазынаў заставалася добрых колькі гадзінаў. Таму я зайшоў у залю станцыі, каб пакачаць і выпіць шклянку гарбаты.

У залі, недалёка уваходных дзьвярэй, за адным з столікаў я пабачыў Платона Галавача зь некім яшчэ, хто сядзеў да мяне плячыма. Галавача я пазнаў адразу, бо часта спатыкаў ягоныя здымкі ў газэтах.

Я падыйшоў да століка ды папытаўся:

— Платон Раманавіч?

Галавач зьдзіўлена зірнуў на мяне: скуль нейкі незнаёмы юнак знае ягонае імя па бацьку, але адказаў:

— Так.

— Я настаўнік (назваў школу) сярэдняй школы, — ня трацяцы часу загаварыў я і назваў сваё прозьвішча. — Я кірую літаратурным гуртком гэтай школы, які носіць Ваша імя.

— А-а-а, — прамовіў ён. — Пра гурток я ведаю, мне аб ім пішуць. А гэта — Якуб Колас, — паказаў ён на свайго суседа.

— Пазнаю, пазнаю, — сказаў я, гледзячы на Якуба Коласа. — Неаднойчы бачыў Вашыя партрэты. Прабачце, што адразу не заўважыў Вас.

— Нічога, нічога! — супакоіў мяне Колас.

— Вы прыехалі да мяне ў справах гуртка, ці так чаго? Што ў вас чуваць? — папытаўся Галавач.

Я сказаў, зь якою мэтаю прыехаў у Менск ды выказаў сваю радасьць ад нечаканае сустрэчы зь ім і дзядзькам Коласам. Сказаў, што і сам я пачынаючы паэт, а аднойчы быў і „рэдактарам" вершу дзядзькі Коласа.

— О-о-о! — зьдзівіўся Колас. — Цікава, калі-ж гэта было і які мой верш Вы рэдагавалі?

— Было гэта ў 1924-25 годзе, калі я вучыўся ў 4-ай клясе, — пачаў я. — Вы, напэўна, памятаеце, што ў школьнай чытанцы тады быў выдрукаваны ў скарачэньні Ваш верш „Пісьмо з астрога". Дык вось, настаўнік задаў нам вывучыць гэты верш напамяць. Калі прыйшла мая чарга сказаць гэты верш напамяць, я трошкі адрэдагаваў ягоны радок: „Дай з сабою колькі злотых..." Мне чамусьці здалося незразумелым, як гэта маці магла даць сыну грошы — злотыя — разам з сабою. А таму я прадэклямаваў: „Дай ў кішэню колькі злотых..." Настаўнік пры гэтым усьміхнуўся, а вучні зарагаталі. І калі я скончыў дэклямаваць, настаўнік сказаў: „Верш ты вывучыў добра, але за тое, што ты яго адрэдагаваў, замяніў словы „з сабою" на „ў кішэню", я замест чацьвёркі даю табе ня „ў кішэню", а ў журнал тройку.

Якуб Колас і Платон Галавач шчыра расьсьмяяліся.

А тады, зірнуўшы на гадзіньнік, Платон Галавач сказаў:

— Шкода, што няма часу пагутарыць з Вамі даўжэй. Мы зь дзядзькам Коласам едзем у калгас у справе пасяўной. Наш цягнік зараз адыходзіць.

Яны ўсталі, разьвіталіся са мною ды пайшлі да цягніка.

Вярнуўся я дадому так і ня купіўшы чаравікаў, бо таго дня іх у ГУМе ня было. Але ўдома я расказаў гуртоўцам пра сустрэчу і гутарку зь Якубам Коласам і Платонам Галавачом. Гуртоўцы таксама шчыра пасьмяяліся з майго рэдактарства.

Па некаторым часе нам сталася ведама, што Платон Галавач арыштаваны. Пасьля гэтага гуртоўцы неяк няпрыкметна занядбалі свае літаратурныя спробы, і гурток імя Платона Галавача пакінуў існаваць.

**Янка Золак**

## КРЫЗІС У БАПЦ: ШТО ДАЛЕЙ?

Нутраны крызіс у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве трывае ўжо даўгі час і пагражае разьбіць рэлігійнае жыцьцё беларускага грамадзтва ў замежжы на радасьць усім ворагам беларускага народу. І калі гэты духовы расклад і хворыя амбіцыі нашых царкоўных дзеячоў ня спыняцца безадкладна, усё тое, што было створанае вялікімі высілкамі ды самаахвярнасьцяй беларускае эміграцыі, будзе зьнішчана нашымі-ж собскімі рукамі. За гэта гісторыя будзе вінаваціць толькі нас самых. І ў гэтым запраўная трагедыя царкоўнага разладу.

Дзеля таго міжвольна насоўваецца пытаньне, ці ня час узяцца за пазытыўную працу над нармалізацыяй нашых рэлігійна-грамадзкіх справаў. Выбівае ўжо апошняя гадзіна, часу засталося мала, і дзеля гэтага мы мусім разьвязаць гэтую праблему сягоньня.

Пры разьвязваньні гэтае праблемы нам усім трэба здабыцца на поўны аб'ектывізм, выэлімінаваўшы вузкія груповыя амбіцыі, памятаючы аб тым, што нас судзіць будзе гісторыя ды што мы за свае ўчынкі будзем адказваць перад Богам і народам!

Справа цяпер зайшла ўжо так далёка, што, здаецца, няма ніякага выхаду з гэтага становішча, няма ніякай супольнай мовы паміж нашымі духоўнымі правадырамі.

Досыць толькі перагарнуць старонкі газэты „Беларускі Час", каб зарыентавацца ў глыбіні падзелу ў БАПЦ. Бязупынныя напады на Архіепіскапа Мікалая, пазбаўленьне яго сану ды забарона служыць у БАПЦ сталіся галоўнай тэмай гэтай газэты, якая аднабакова падтрымвае Мітрапаліта Андрэя, ягоную кансысторыю ды невялічкую групу ягоных прыхільнікаў, намагаючыся пераканаць беларускае грамадзтва, што адзіны вінаваты ў крызісе — гэта Архіепіскап Мікалай.

Трэба аднак ведаць, што ўсе добра азнаёмленыя зь істотнымі фактамі крызісу, і на іх прапаганда „Беларускага Часу" ня мае ніякага ўплыву. Пісакі з гэтае газэты, так званыя „экспэрты" ды „інтэрпрэтатары" статуту БАПЦ і канонаў, зайшлі навет так далёка, што называюць тых, хто зь іхнымі „непамыльнымі" вывадамі не згаджаецца, „натоўпам, які кіруецца інстынктам, а ня правам". Гэтыя „экспэрты" забыліся аб тым, што гэты „натоўп" закладаў і збудаваў усе беларускія парахвіі, аддана працаваў на беларускай ніве й годна рэпрэзэнтаваў нашую справу сярод іншых нацыянальнасьцяў у розных палітычных дэманстрацыях, мастацкіх фэстывалях, культурных ды іншых мерапрыёмствах.

Трэба было спадзявацца, што „Беларускі Час" аб'ектыўна паставіцца да нашага царкоўнага крызісу, а не пачне аднабакова насьвятляць ход справаў з намерам стварыць уражаньне, што бальшыня вернікаў супраць Уладыкі Мікалая.

Як-жа ў запраўднасьці выглядае гэтая ўяўная меншыня й група „адшчапенцаў"? Тут факты кажуць штосьці зусім іншае, кардынальна запярэчваючы цьверджаньні шматлікіх артыкулаў у згаданай газэце.

Гэтак, трэба тут падкрэсьліць заклік сучаснай парахвіяльнай рады парахвіі ў Брукліне прыйсьці зь безадкладнаю матар'яльнай дапамогай парахвіі, бо царкоўнаму будынку пагражае продаж з прычыны нястачы фінансаў. Парахвія праіснавала больш за 30 гадоў і ніколі ня была ў гэткім распачлівым фінансавым стане. Новая „бальшыня" давяла хутка да гэтага! Высснова для нэўтральных назіральнікаў: там толькі засталася невялічкая група, якая, ясная рэч, ня можа ўтрымаць царкоўнага будынку!

Усе-ж іншыя парахвіі працуюць нармальна, не наракаюць на нястачу фінансаў, аднак перажываюць, зразумела, фэрмэнт, чакаючы цярпліва на разьвязаньне крызісу паміж найвышэйшымі гіерархамі Царквы.

Аб якой „бальшыні" можа сьветчыць той факт, што калі Мітрапаліт Андрэй абвесьціў у храме ў Кліўленьдзе пасьля сьв. Літургіі, што будзе адслужаны малебен за ягонае здароўе з нагоды ягонага 80-годзьдзя, дык у царкве засталіся толькі дзьве асобы. А кліўлендзкая парахвія — адна з найбольшых. Гэты запраўды сумны факт трэба разумець не як выяў непашаны да асобы Першагіерарха свае Царквы, а як свайго роду рэфэрэндум у пытаньні канфлікту ў БАПЦ — асуджэньне шляху, абранага Мітрапалітам, які хоча разьвязаць царкоўныя канфлікты ў сьвецкіх судох.

Паўстае цяпер пытаньне: як доўга гэткі стан будзе цягнуцца? Як доўга агрэсыўная й бескампрамісная група сваймі загадамі й пастановамі будзе бясцырымонна накідаць сваю волю абсалютнай бальшыні вернікаў БАПЦ?

Ці запраўды мы будзем пасыўна прыглядацца да павольнага, але сыстэматычнага раскладаньня ўсіх парахвіяў БАПЦ ды поўнае ліквідацыі беларускага арганізаванага рэлігійнага жыцьця на эміграцыі?

Нашыя царкоўна-грамадзкія інтарэсы вымагаюць ад усіх нас безадкладных мерапрыёмстваў, каб прыпыніць ліквідацыю нашых рэлігійных асяродкаў, выступіць з пазытыўнымі прапановамі скончыць гэты канфлікт паміж найвышэйшымі гіерархамі БАПЦ.

Цяпер кажнаму ведама, што гэта канфлікт паміж нашымі найвышэйшымі ўладамі, а ня справа парахвіі ў Гайленд Парку ў штаце Нью Джэрзі.

Беларуская грамадзкая думка на эміграцыі не без падставаў уважала, што газэта „Беларускі Час", якая заўсёды прысьвячала належную ўвагу беларускім рэлігійным падзеям і якая карысталася добрым заслужаным аўтарытэтам сярод чытачоў, выступіць з пазытыўнаю прапановаю скончыць гэты крызіс. Нажаль, газэта заняла вузкое аднабаковае становішча, публікуючы „загады" й „пастановы" кансысторыі БАПЦ ды неабгрунтаваныя нападкі на Ўладыку Мікалая, зацямняючы ўсе істотныя прычыны паўсталага крызісу.

Месцам для публікацыі гэткіх пастановаў павінен быў быць „Царкоўны Бюлетэнь", а не агульна-грамадзкая газэта, якая павінна аб'ектыўна насьвятляць нашыя праблемы.

У выніку гэткіх нагонак, загадаў і „звальненьняў" Уладыка Мікалай змушаны быў бараніцца, трымаючыся прынцыпу, што трэба шукаць паразуменьня й згоды перамовамі ўнутры Царквы, а не кампрамітуючым усіх нас шляхом судовых працэсаў.

З гэткім перакананьнем Уладыка Мікалай выслаў ліст ад 28 сьнежня 1981 г. да Мітрапаліта Андрэя, уважаючы, што паміж найвышэйшымі духоўнымі гіерархамі будзе знойдзеная супольная мова да паразуменьня й да абладжаньня крызісу бяз удзелу сьвецкіх судоў. Аднак гэты зварот ня даў ніякага выніку, і Уладыка Мітрапаліт, пад уплывам, відаць, сваіх гора-дараднікаў, пастанавіў далей весьці судовыя працэсы.

Як відаць, Уладыка Мікалай жыў ілюзіяй, што справу крызісу ў Царкве можна й трэба абладзіць унутры самым, бяз умешваньня судовых органаў. І гэтая ілюзія была запраўды шкодная для беларускага рэлігійнага жыцьця, бо крызіс трывае ўжо блізу два гады, пагражаючы далейшым разьбіцьцём установаў БАПЦ.

Трэба спадзявацца, што Архіепіскап Мікалай абудзіцца з гэтага летаргічнага сну ды як мага хутчэй возьмецца за акцыю ўратаваньня БАПЦ. Пара яму вызбыцца гэтых ілюзіяў, ведаючы, што другі бок робіць усё, каб яго выключыць з БАПЦ, прыпісваючы яму віну ўва ўсім.

Непапраўная ілюзія Архіепіскапа Мікалая цягнецца ўжо катэгарычна задоўга! Час разьвеяць гэтыя надзеі і час пагадзіцца з думкаю, што другая група на ніякія пагадненьні ня пойдзе.

Уся бальшыня вернікаў БАПЦ чакае, што Архіепіскап Мікалай, які на працягу апошніх двух гадоў зносіў, як праўдзівы хрысьціянін і стоік усе абразы й беспадстаўныя абвінавачаньні, скліча Сабор БАПЦ і то ў як найхутчэйшым часе для разьвязаньня ўсіх праблемаў. Трэба выключыць магчымасьць скліканьня Сабору БАПЦ Мітрапалітам Андрэем, які хоча абладзіць усе справы пры дапамозе сьвецкіх судоў.

На нашую думку, ён добра ведае, што гэткі падыход ідзе ўразрэз зь беларускаю царкоўна-грамадзкай думкай ды супярэчыць Статуту БАПЦ і канонам Праваслаўнае Царквы. Яму цяжка будзе здабыць назад тую вялікую папулярнасьць, якою ён карыстаўся на працягу гадоў аж да часу Сустрэчы Беларусаў у Кліўленьдзе ў 1980 годзе, калі ён навет не паказаўся ў кліўлендзкай царкве на час багаслужбы, на якую сабраліся прадстаўнікі розных беларускіх рэлігійных і грамадзкіх арганізацыяў з усіх бакоў ЗША й Канады, а нат і з Эўропы.

Усе справы БАПЦ павінны быць абладжаныя ня судамі, але самою Царквою і ейным найвышэйшым органам — Саборам.

І гэтага чакае ды спадзяецца пераважная бальшыня ўсіх вернікаў, закладчыкаў і сымпатыкаў БАПЦ!

**В. Пляскач**

## „ХВОРАЕ (І БЯЗЬДЗЕЙНАЕ) СУМЛЕНЬНЕ"

**(Праблематыка апавяданьняў Вольгі Іпатавае)**

Аб творах 37-гадовае Вольгі Іпатавае пішуць у рэспубліканскім друку. Крытыкі спыняюцца на розных тэмах творчасьці гэтае цікавае пісьменьніцы, але часамі зь іхнага поля зроку выпадае тое, што, думаецца, заслугоўвае на найбольшую ўвагу й прызнаньне.

Якія-ж тэмы вылучаюць савецкія крытыкі ў творчасьці гэтае пісьменьніцы?

Алесь Марціновіч яшчэ ў 1978 годзе ў газэце „Чырвоная Зьмена", у артыкуле пад загалоўкам „Супраць бяздухоўнасьці", адзначыў дадатную надзённасьць тэматыкі ў апавяданьнях Іпатавае. „Іпатава, — пісаў Марціновіч, — часта пачала выступаць у рэспубліканскай пэрыёдыцы з апавяданьнямі, прысьвечанымі нашаму сучасьніку, чалавеку, што ўвабраў у сябе лепшыя якасьці прадстаўнікоў старэйшых пакаленьняў, але разам з тым у многім і пераўзыйшоў сваіх папярэднікаў як у сэньсе сацыяльна-грмадзкага разьвіцьця, так і ў сфэры маральнаэтычных узаемаадносін".

Нэлі Тулупава ў леташнім жніvenскім нумары часапісу „Неман", у артыкуле „Правда судеб человеческих", пісала пра тэму так званага „хворага сумленьня" ў апавяданьнях Іпатавае, зьмешчаных у кнізе ейных твораў „Вецер над стромай". Нэлі Тулупава заўважыла: „тэма хворага сумленьня прасочваецца амаль у кожным творы Іпатавае".

Бяручы на ўвагу якраз тое, што Вольга Іпатава ў сваіх творах піша пераважна пра сучасьнікаў, штож гэта за „хворае сумленьне", пра якое згадвае Тулупава? Цьверджаньні Алеся Марціновіча ды Нэлі Тулупавае неяк не сумяшчаюцца адно з адным.

Прасачэм тады самі на прыкладзе двух апавяданьняў Іпатавае — „Апоўначы, калі б'юць куранты" й **„Дваццаць** хвілін з Нэмэзыдай" — вобразы сучасьнікаў у пісьменьніцы ды паглядзем, наколькі яны адпавядаюць цьверджаньню Алеся Марціновіча, які кажа, што вобразы сучасьнікаў у Іпатавае ўвабралі ў сябе „лепшыя якасьці прадстаўнікоў старэйшых пакаленьняў".

У абодвых апавяданьнях галоўныя гэроі — жанчыны: Натальля, студэнтка пэдінстытуту, у апавяданьні „Апоўначы, калі б'юць куранты", ды Стэла, тэатральны крытык, у апавяданьні „Дваццаць хвілін з Нэмэзыдай". Натальля й Стэла — людзі розных сацыяльных групаў з рознай ступеняй выхаваньня, дабрабыту й г.д.

Сюжэт апавяданьня „Апоўначы, калі б'юць куранты" просты. Натальля прыяжджае ў раённы цэнтар да свайго аднакурсьніка Максіма, у якога яна закаханая. Прыехаўшы, яна выпадкова пазнаёмілася зь 10-гадовым хлапчуком Антэкам, зь якога зьдзекуюцца старэйшыя хлапцы, зьдзекуюцца таму, што Антэк — добры, рахманы, а галоўнае, што ён жыве бедна — а калі бедна, дык і крыўдзіць можна.

Даведаўшыся пра абставіны, у якіх жыве Антэк (ён сам сабе гатуе страву, прыбірае хату, бо адзіны родны чалавек, маці, ляжыць у шпіталі), Натальля прыходзіць у адчай і роспач.

Іпатава завайстрае адчай Натальлі тым, што, паказаўшы беднасьць, паказвае й сытасьць — кампанію Максіма, да якога паехала Натальля, кампанію забясьпечаных, заможных, выпешчаных хлапцоў на матацыклях „Ява", якім даступныя і модныя шмоткі, і дзяўчаты, каб пагуляць, і бары з розным пітвом ды іншае.

Натальля разумее Антэка й шкадуе яго з прычыны ягонае беднасьці ды шкадуе й Максіма за тое, што яго папсаваў дабрабыт. Здавалася-б, Натальля — станоўчы, гуманны вобраз сяньняшняга савецкага чалавека і, здавалася-б, крытык Марціновіч мае рацыю, адзначаючы, што гэроі Іпатавае ўвабралі ў сябе „лепшыя якасьці прадстаўнікоў старэйшых пакаленьняў". Але напрыканцы апавяданьня адбываецце непрадбачанае.

Апынуўшыся неяк на высокай гары, Антэк выпадкова натрапіў на Натальлю з Максімам і перашкодзіў ім цалавацца. Максім, у прыступе злосьці за гэта, сьпіхае Антэка з гары.

Як-жа паводзіць сябе Натальля, гэты станоўчы пэрсанаж? — Яна абвінавяціла... гару! Калі-б не гара, падумала яна сама сабе, дык нічога й ня здарылася-б. Натальля ня здолела зразумець, дзеля чаго Максім гэткі жорсткі, подлы. Яна не разгледзела й не зразумела, што галоўную ролю адыграла тут Максімава права асабістай перавагі, перавагі сытага й дужага над бедным і слабым. Натальля гэтага ня бачыць, яна папросту маральна сьляпая.

Жыцьцё Стэлы, гэраіні апавяданьня Вольгі Іпатавае „Дваццаць хвілін з Нэмэзыдай", склалася так, што Стэлу акружала асяродзьдзе мяшчанаў, бюракратаў — людзей, якія дзеля асабістай выгоды ішлі на кампрамісы з сваім сумленьнем. Муж Стэлы ажаніўся зь ёю дзеля маскоўскае прапіскі, бацькі Стэлы, дзеля партыйнае кар'еры свае (даўгі час яны былі зь няведамай місіяй за мяжой), пастуpaліся сваёй годнасьцяй, гонарам, сумленьнем; сьвякроў Стэлы, каб толькі дамагчыся прызнаньня сярод артыстычнай савецкай эліты, усхваляла ў сваіх крытычных артыкулах пашлякоў гэтай эліты. Па блату, як пасьля даведалася Стэла, яе ўладкавалі ў

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





## СЬВ. ПАМ. ЯЗЭП МАЛЕЦКІ

Згуртаваньне Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія) з сумам паведамляе, што 6-га чырвеня 1982 г. ў веку 76 год адыйшоў на вечны супачын др. Язэп Малецкі— беларускі партыёт, выдатны грамадзкі дзеяч, аўтар. Мы выказваем сваё глыбокае спачуваньне жонцы Нябожчыка, дачцы й радні.

**Управа Згуртаваньня ў Новай Паўдзённай Валіі**

### „ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ" № 32

Гэты царкоўна-грамадзкі часапіс выдае царкоўная рада Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі. Апошні 32-гі нумар (32 бб.) зьмяшчае: „Зь Валіоднага Пасланьня Архіепіскапа Якаваса"; „Дадатковы доказ праўдзівасьці Турынскае Плашчаніцы"; „Сумная гадавіна" (угодкі трагічнае сьмерці а. Аляксандра Каўша); „Панёманская загадка" (М. Белямук); „Ящчэ аб падзеях у БАПЦ"; хроніка з Чыкага (М. Латушкін), Саўт Рывэру, Н. Дж., Нью Ёрку, Зах. Нямеччыны; нэкралёг па І. Муху; выдавецкія навіны; рэцэнзія на фэльетоны-памфлеты В. Мацкевіча „Смаўжы адкрываюць Амэрыку" (бібліятэчка „Голасу Радзімы"). Нумар ілюстраваны.

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

## ГАННА ДУБЯГА-БЕЛАЕЦ



17-га травеня сёлета адыйшла на вечны супачынак сьв. памяці Ганна Дубяга-Белаец, пакінуўшы ў глыбокім смутку сыноў Генадзя й Віктара Дубягаў, нявестак Мальвіну й Алу, тры ўнучкі й двух унукаў. Страту Нябожчыцы моцна адчула парахвія БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, Н. Дж., ды ўся беларуская калёнія ў Нью Джэрзі, актыўнай сяброўкай якіх Нябожчыца была праз ўсе 32 гады свайго жыцьця ў Амэрыцы.

Сьв. памяці Ганна, з дому Жук, нарадзілася 17-га травеня 1921 году ў вёсцы Тарасавічы Вялейскага павету. Ваенныя падзеі закінулі яе з мужам Янкам Дубягам і дзецьмі ў Нямеччыну. Пахаваная Нябожчыца на Беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку 28-га травеня.

Успамінамі з часоў жыцьця на Бацькаўшчыне падзяліўся у часе памінальнай бясэды зямляк Нябожчыцы сп. Янка Місюль, які знаў яе й ейнага нябожчыка мужа Янку. Сп. Місюль ведаў Ганну й Янку Дубягаў як людзей моцна сьведамых, працавітых і зарадных у жыцьці.

Сп. Пётра Кажура, старшыня аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі, расказаў цікавыя мамэнты з жыцьця ў лягерох у Нямеччыне. У Алендорфе ля Марбургу дом Ганны й Янкі Дубягаў быў гасьцінным прытулкам для беларускіх студэнтаў, што вучыліся на ўнівэрсытэце ў Марбургу. Ганна й Янка Дубягі горда несьлі беларускае імя й беларускі сьцяг, гэты апошні — часта ў дакладным значэньні гэтага слова, праз лягеры ў Мэнхэнгофэ, Альтэнштаце й Розэнгайме. Муж Нябожчыцы Янка быў сваім часам старшынём аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі. Ганна належала да парахвіі й сястрыцтва Божай Маці Жыровіцкай і да аддзелу БАЗА.

Сьв. памяці Ганну мы ведалі як асобу жыцьцярадасную, працавітую й ахвярную, гарачую патрыётку добрую парахвіянку, добрую й гасьцінную гаспадыню. Свае прыкметы яна перадала сваім сыном і ўнукам.

Гэткім застанецца ейны вобраз у тых, хто яе знаў.

**Р. Б.**

**А Б В Е С Т К А**

Амэрыканскае радыё у Заходняй Германіі патрабуе супрацоўніка, які добра валодае беларускай мовай. Кандыдат павінен мець здольнасьці журналіста; добры голас дыктара; унівэрсытэцкую адукацыю; добра арыентавацца як у справах Беларусі, Савецкага Саюзу наагул, гэтак і ў міжнародных падзеях; добра валодаць англійскай мовай (пажадана таксама рускай і нямецкай); магчы рэдагаваць і выпраўляць прызначаныя для радыёперадачаў матэрыялы на беларускай мове.

Выгодныя ўмовы. Зарплата паводля дасьведчаньня і кваліфікацыі.

Заявы накіроўваць на адрас:
Personnel Department
RFE/RL, Inc.
1201 Connecticut Ave., N.W.
Washington, D.C. 20036

## „МОЎНАЕ БРАКАНЬЕРСТВА"

(З артыкулу першага сакратара праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Ніла Гілевіча — „Мова, якою мы пішам...", „Літаратура і Мастацтва", 11.VI.1982)

Трэцяя зьява, якая характарызуе мову нашай сучаснай літаратуры, гэта — бястурботная замена беларускіх слоў рускімі, беларускага сынтаксісу — калькай з рускага. Замена, за якою найчасьцей стаіць звычайная лянота душы і звычайная няпісьменнасьць. (Першыя дзьве зьявы, пра якія піша Н. Гілевіч — гэта „празьмернае засьмечваньне нашай літаратурнай мовы дыялектызмамі" ды „празьмернае захапленьне ўласнай словатворчасьцю" — Рэд.).

Гэтая зьява — найбольш небясьпечная, таму што, па-першае, непараўнана больш, чым дзьве папярэднія, пашыраная, а, па-другое, таму, што ёй найцяжэй процістаяць і процідзейнічаць. Зрэшты, ніякага актыўнага процідзеяньня і няма, наадварот — досыць паважныя мужы нашай культуры стараюцца падвесьці пад яе тэарэтычную базу і тым самым апраўдаць яе, лічыць „натуральным працэсам".

Дрэнны прыклад калькаваньня фразы і пераносу слоў жыўцом з рускай даюць нашыя газэты, не адстаюць ад іх радыё і тэлебачаньне. Сумна, што свой адчувальны „ўклад" у гэтае псаваньне і нявечаньне мовы робяць і нашы акадэмічныя тэатры. (...) Іншы раз уражаньне такое, што гэта робіцца наўмысна, каб даказаць: беларуская мова — гэта тая-ж самая руская, толькі крыху сапсаваная мясцовым, тутэйшым вымаўленьнем.

Найбольш крыўдна, што і некаторыя нашы пісьменьнікі ня толькі не змагаюцца з моўным браканьерствам, але і самі нясуць у выдавецтвы, у тэатры, у часапісы і газэты творы са сьлядамі недаравальнай для прафэсійнага літаратара моўнай мешаніны. І пры гэтым — не бянтэжацца, не саромеюцца, бо, на іх погляд, аказваецца, гэта натуральна, так, маўляў, і трэба. Крытычных заўваг яны ня прымаюць. „Ня важна! Пускай ідзёць! Так лягчэй зразумеюць!.."

Хочацца запытаць у такіх таварышаў: як гэта — ня важна? Для каго — ня важна? Для вас ці для беларускай культуры? Можа быць, ня так важна, пойдзе ці ня пойдзе на сцэне ваша слабая п'еса (наедак — невялікі!), але вельмі важна, архіважна, каб са сцэны нацыянальнага акадэмічнага тэатру гучала сапраўдная, цудоўная беларуская мова!

(„Літаратура і Мастацтва", 11.VI.1982)

## ШТО ЧУВАЦЬ?

**Сп. Нік Манцывода Малодшы** абраны за скарбніка Рэспубліканскае Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі на агульным сходзе рэспубліканскіх групаў штату, што адбыўся 24 травеня сёлета ў гор. Ньюварку. У рэзалюцыі, прынятай сходам, выказваецца асуджэньне тэлеперадачы „Нацыстаўскія сувязі" з паклёпамі на Беларусаў, што была паказаная станцыяй Сі-Бі-эС 16 травеня сёлета, ды просіцца губэрнатара штату Тома Кейна пасрыяць беларуска-амэрыканскай грамадзе штату ў пашырэньні праўды пра Беларусь.

**Сп. Язэп Арцюх,** кіраўнік Беларускага рэспубліканскага клюбу ў Каліфорніі, узнагароджаны адмысловай прэзыдэнцкай граматай за выдатную дзейнасьць у Рэспубліканскай партыі.

**На гадавой канфэрэнцыі Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў Амэрыкі,** што адбылася 10-12 чырвеня сёлета ў гор. Галівудзе ў штаце Флярыда, прадстаўнікамі ад Беларускіх клюбаў былі: сп-ня Лянгіна Брылеўская й др. Лявон Трусэвіч. Беларускія прадстаўнікі бралі ўдзел як у пленарных паседжаньнях, гэтак і ў працах спэцыяльных камісіяў. На прапанову беларускае дэлегацыі была аднагалосна прынятая рэзалюцыя з асуджэньнем паклёпніцкае праграмы амэрыканскае тэлевізійнае станцыі Сі-Бі-эС „Нацыстаўскія сувязі", а таксама рэзалюцыя з дамаганьнем уводу беларускае мовы ў праграмы „Голасу Амэрыкі".

**На выстаўцы ў Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы** (42-я вул. й 5-я авэню) паштовак з гарадамі Ўсходняе Эўропы паказаныя таксама паштоўкі зь відамі беларускіх гарадоў: Віцебску, Горадна, Менску, Магілева, Вільні. Выстаўку можна аглядаць штадня, апрача чацьвяргоў і нядзеляў, на працягу ліпеня й жніўня.

**Пра беларускае паходжаньне Тадэвуша Касьцюшкі** зьмешчаная нататка Багдана Паўкэ ў газэце „Чыкага Трыбюн" за 20 чырвеня сёлета пад заг. „Не-Палякі, што ўзбагачваюць культуру Польшчы". У нататцы гаворыцца таксама пра лаўрэата Нобэлеўскае прэміі ў літаратуры паэты Часлава Мілаша, як пра „Беларуса-Ліцьвіна, які абраў польскую мову за сродак выказваньня".

**Двутомавы „Руска-беларускі слоўнік"** меўся выйсьці ў сьвет у першай палове году сёлета, паводля „Голасу Радзімы" ад 22. X. 81 г.. Гэта будзе перапрацаванае й дапоўненае выданьне аднайменнага слоўніка 1953 году. Тыраж гэнага слоўніка быў 50 тыс. экзэмпляраў.

К. Крапіва, як падала газ. „Літ. і Маст." (4. VI. 82), рэдагуе цяпер **„Беларуска-рускі слоўнік".**

**Артыкул праф. Арнальда МакМіліна** „Купалава паэма ‚Бандароўна' й Шаўчэнка: да гісторыі разьвіцьця беларускае літаратуры на пачатку дваццатага стагодзьдзя" зьмешчаны ў лёнданскім квартальніку „Славонік энд Іст Юропіэн Рэв'ю (№ 2, красавік 1982, бб. 211-220). Гэта грунтоўна апрацаваны параўнальны аналіз Купалавае паэмы, што будзе прачытаны як даклад на IX-ым Міжнародным зьезьдзе славістаў у Кіеве ў 1983 годзе. Праф. МакМілін, прызнаючы пэўныя ўплывы Шаўчэнкавае творчасьці на Песьняра Беларусі, абгрунтоўвае арыгінальнасьць Купалавых твораў. „Сувязі паміж Купалам і Шаўчэнкам, — піша дасьледнік, — былі як ніколі моцныя ў 1913 годзе, годзе напісаньня ‚Бандароўны", адным з найбагацейшых у Купалавым творчым жыцьці". Падабенства паміж Шаўчэнкам і Купалам праф. МакМілін тлумачыць супольнасьцяй фальклёрнае асновы іхнае творчасьці. Між іншага, праф. МакМілін адзначае, што Купала займаўся перакладамі з Шаўчэнкі ў другой палавіне 1930-ых гадоў, калі, кажа МакМілін, „Купалава арыгінальная вершатворчасьць дзеля розных прычынаў звузілася да струйкі".

**„Слоўнік беларускіх псэўданімаў і крыптанімаў"** рыхтуе да друку Іван Саламевіч, загадчык рэдакцыі беларускага слоўніка ў выдавецтве Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі. „Гэта першая ў нас падобная праца, — кажа складальнік, — яна заняла ў мяне амаль 20 гадоў. У слоўніку фігуруюць каля 4 тысячаў прозьвішчаў літаратараў, якія з той ці іншай прычыны не заўсёды падпісвалі творы сваім уласным імем. Зьвесткі сабраныя па розных крыніцах ад XVI стагодзьдзя і да нашых дзён".

Некаторыя аўтары, кажа Саламевіч, выступалі пад масай розных псэўданімаў: Зьміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) — пад 121 псэўданімам, Янка Купала меў 44 псэўданімы, Якуб Колас — 59, Гальляш Леўчык — 31, Леапольд Родзевіч — 42. („ГР" № 15, 15.IV.82)

**Пяць тысячаў галасоў беларускіх птушак** запісана ў фанатэцы Інстытуту заалёгіі Акадэміі Навукаў БССР.

**Аповесьць беларускага празаіка ваеннае тэмы Васіля Быкава „Воўчая зграя"** выйдзе сёлета пагаляндзку, а налета ў гішпанскім перакладзе выйдзе аповесьць Быкава „Дажыць да сьвітаньня", а таксама кніга аповесьцяў паарабску.

**Менскі касьцёл сьв. Роха,** рэстаўрацыя якога вядзецца ад 1976 г., як падала газэта „Голас Радзімы" (№ 5, 1982) станецца канцэртнай заляй на 108 месцаў, „у якой загучыць камэрная музыка XVII-XVIII стагодзьдзяў, а ў далейшым тут будзе ўстаноўлены арган".

**Сёлета будзе закончаная рэстаўрацыя былога Сафійскага сабору ў Полацку йператварэньне яго ў канцэртную залю-музэй.** „Пабудаваны ў пэрыяд Усяслава-Чарадзея, недзе паміж 1044 і 1066 гадамі, — пішуць архітэктар В. Сьлюнчанка й археоляг М. Трусаў у газ. „Літаратура і Мастацтва" (27. V. 82), — Сафійскі сабор быў сымбалем незалежнасьці Полацкага княства, сымбалем яго самастойнасьці й моцы".

„Заказ на вытворчасьць аргана (для сабору), — інфармавала раней газэта „Голас Радзімы" (24. XII. 81), — прынялі майстры сусьветна ведамага прадпрыёмства гораду Франкфурту-на-Одэры" (Усходняя Нямеччына)".

**Новы гадавік „Братэрства",** які пачне выходзіць сёлета ў менскім выдавецтве „Мастацкая літаратура", будзе прысьвечаны перакладам у беларускую мову з савецкіх літаратураў. За рэдактара новага альманаху прызначаны паэта й перакладнік Рыгор Барадулін.

Гадавік-альманах „Далягляды", які выходзіць ужо колькі гадоў, будзе прысьвечаны цяпер вылучна перакладам зь літаратураў сацыялістычных краінаў і твораў г. зв. „прагрэсыўных" пісьменьнікаў Захаду.

**Рунічныя надпісы IX-X стагодзьдзяў упяршыню знойдзеныя на Беларусі** пры раскопваньні Маскавіцкага гарадзішча ля возера Дзябра ў Браслаўскім раёне. Знаходка — адна з рэдкіх у Савецкім Саюзе.

Рунічным шрыфтам карысталіся славянізаваныя выхадцы із Скандынавіі, якія жылі на заходніх землях Полацкага княства.

Руны або рунічнае пісьмо ўзьнікла на рубяжы I-II стагодзьдзяў у зоне кантактаў германскіх плямёнаў з грэцкім і лацінскім сьветам. У IX-X ст.ст. рунічнае пісьмо было спрошчанае (лік знакоў скараціўся з 24 да 16). Гэткімі спрошчанымі рунамі або, як іх завуць, малодшымі, выкананыя надпісы на знаходках Маскавіцкага гарадзішча. Гарадзішча гэтае знаходзілася ў раёне ракі Друйкі, дзе яна злучаецца з Заходняй Дзьвіной. Калісьці тудой праходзіў буйны водна-гандлёвы шлях. („ГР" № 1, 7. I. 82).

**Фільм „Людзі на балоце", зроблены студыяй „Беларусьфільм" паводля аднайменнага раману Івана Мележа,** здабыў галоўны прыз на XV-ым Усесаюзным фэстывалі, што завяршыўся ў красавіку сёлета ў сталіцы Эстоніі Таліне.

**Камплект каляровых паштовак зь беларускай нацыянальнай вопраткай** быў выпушчаны летась менскім выдавецтвам „Беларусь". У камплекце — узоры народных касьцюмаў розных раёнаў Беларусі. Найбольш багата паказанае адзеньне Палесься.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У травені 1982 году паступілі ў касу газэты падпіска й ахвяры:**

**ЗША**

**Прысланая беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Радыё „Свабода" (за абвесткі) | $ 75.00 |
| 2. | А. М. | 50.00 |
| 3. | Н. Грэбень | 40.00 |
| 4. | А. Філістовіч | 30.00 |
| 5. | М. В. М. | 25.00 |
| 6. | Ул. Бакуновіч | 25.00 |
| 7. | Ул. Лукашэвіч | 25.00 |
| 8. | Т. Новік | 25.00 |
| 9. | Ананімна | 19.60 |
| 10. | М. Олійнык | 15.00 |
| 11. | Б. Паўкэ | 12.00 |
| | **Разам:** | **$ 341.60** |

**Праз сп. Б. Даніловіча, прадстаўніка газэты ў Нью Джэрзі:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | В. Сьліўка | $ 22.00 |
| 2. | Ю. Станкевіч | 22.00 |
| 3. | Парахвія Жыровіцкай Маці Божай ў Гайленд Парку | 20.00 |
| 4. | К. Стрэш | 15.00 |
| 5. | Г. Дубяга | 15.00 |
| 6. | В. Цярпіцкі | 12.00 |
| 7. | М. Сільвановіч | 12.00 |
| 8. | П. Орса | 12.00 |
| 9. | Я. Л. | 10.00 |
| 10. | М. Ханяўка | 22.00 |
| 11. | С. Гутырчык | 15.00 |
| 12. | Ю. Стагановіч | 13.00 |
| 13. | М. Януш | 12.00 |
| 14. | Л. Стагановіч | 12.00 |
| 15. | Ю. Азарка | 12.00 |
| 16. | В. Дубяга | 12.00 |
| 17. | К. Міpановіч | 12.00 |
| 18. | Б. Букатка | 12.00 |
| 19. | Г. Г. | 12.00 |
| 20. | А. Костэр | 12.00 |
| 21. | Айцец А. Махнюк | 12.00 |
| 22. | М. Ігнатовіч | 12.00 |
| 23. | Л. Шурак | 12.00 |
| 24. | Я. Лук'янчык | 12.00 |
| 25. | К. Ворт | 12.00 |
| 26. | А. Губэрт | 10.00 |
| 27. | Я. Л. | 5.00 |
| | **Разам:** | **$ 361.00** |

**ФРАНЦЫЯ (Ле Крэзо-Монтана)**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Б. Нагорны | фр. 50.00 |
| 2. | Ю. Трусаў | 50.00 |
| 3. | А. Трусаў | 50.00 |
| 4. | Л. Палуйчык | 50.00 |
| 5. | М. Бульга | 60.00 |
| 6. | Б. Баўт | 40.00 |
| 7. | С. Горват | 20.00 |
| | **Разам:** | **320.00 фр.** |
| | **У амэр. валюце:** | **$ 50.55** |

**АЎСТРАЛІЯ (Адэляйда) праз сп. П. Трысмакова:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | П. Пачопка | $ 25.25 |
| 2. | У. Акавіты | 15.15 |
| 3. | М. Бурнос | 15.15 |
| 4. | К. Станкевіч | 15.15 |
| 5. | П. Трысмакоў | 12.12 |
| 6. | І. Ролсан | 11.11 |
| 7. | Цітовіч | 10.00 |
| | **Разам:** | **$ 104.03** |

**Усяго разам за травень: $ 857.18**

**Усім ахвярадаўцам і падпісчыкам шчыры дзякуй!**

### „ЗВАЖАЙ", № 2(26)

У гэтым нумары часапісу Беларускіх Вэтэранаў: тэкст заявы паангельску Беларуска-Амэрыканскае Кааліцыі Супрацьдзеяньня Паклёпам — адказ на тэлеперадачу Сі-Бі-эС „Нацыстаўскія сувязі"; гэтай тэме прысьвечаны й рэдакцыйны артыкул (паангельску) К. Акулы; артыкулы „Ад беларусізацыі да поўнай русыфікацыі" (В. С-іч); „ІІІ Сусьветная вайна" (В. Сянькевіч); „Ядзерная катастрофа ў Сібіры".

**УВАГА!**

**— НЬЮ ДЖЭРЗІ —**

**УВАГА!**

Асобы, якія дастаюць газэту „Беларус" ад сп. Б. Даніловіча, павінны перадаваць падпіску й ахвяры яму, выпісваючы чэкі на ягонае імя ды перасылаць на ягоны адрас:

Mr. B. Danilovich
303 Howard Street
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя „Беларуса"**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.

## DISTORTED JANKA KUPALA

Publishers of the Soviet weekly, **Holas Radzimy**, through which propagandists from Minsk reach out to citizens of Byelorussian origin living in the West, turned out a 78-page booklet of poems by Janka Kupala and Jakub Kolas in English translation. The book's title is **Songs as Clear as the Sky**. It contains 29 poems by Kupala and 18 by Kolas — all rendered from Byelorussian by Anisiya Prokofieva.

The volume's editor, himself a poet and translator, Yasep Semezhon writes in the brief introductory article:

"An essential feature of our national poetry is that 'verse making' has always held magic for and played a special role in the life of the Byelorussian people. Poetry for our poets and for their readers was not a means of enjoyment or an exercise of the mind, not a luxury that comes with contentment and stability, for such poetry leaves no trace (?! — J.Z.); **poetry was at the same time politics, philosophy and ethics.** Since the first revolution of 1905, when the people's poets — Kupala and Kolas — began publishing their verses, **our national poetry has turned into the focus of Byelorussia's spiritual struggle** (emphasis added — J.Z.)."

Mr. Semezhon's selection of Kupala's poems, however, in no way supports his correct statement that Kupala's poetry "was at the same time politics, philosophy and ethics," and that it was turned by the poet "into the focus of Byelorussia's spiritual struggle."

The 29 poems included in the booklet show Kupala as rather lyrical and contemplative than the castigating awakener and spiritual leader that he was.

Only in one poem in the booklet was Kupala allowed to express what was very much on his mind and heart, and which he immortalized in scores of poems. Although over three dozen of such poems are still prohibited in Soviet Byelorussia, some of them have been included in the third post-WW II edition of Kupala's 7-volume "Collected Works" (1971-1976). One such poem, "Son and Mother," we find in the **Holas Radzimy**'s collection, **Songs as Clear as the Sky**. The translation, however, is rather clouded by attempts to blunt and distort Kupala's acute concern in 1921, when the poem was written, with problems of national rights for Byelorussia, four years after the Bolshevik revolution.

"Son and Mother" is a dialogue between a school boy, whose teacher spoke in the classroom "of some Byelorussia that lives in freedom," and his mother. The boy says he "could not in any way figure out" what his teacher meant. Mother then explains to him what is Byelorussia. Byelorussia, she said, lies all around you where there are:

Hundreds of villages and towns,
Many cities,
Rapid rivers and noisy forests
**With unsung glory.**

Let us recall that Kupala in many a poem glorified and romanticized Byelorussia's remote past, especially during the times of the independent and free Polacak Principality (11th-12th centuries). Kupala used images of the past to change the present. The above quoted stanza in Prokofieva's translation came out significantly altered:

There are villages and hamlets,
Many a big town,
Noisy groves and rapid rivers
**Worthy of renown!**

Especially indicative of the translator's (or the editor's) bias is a stanza where Mother, having enumerated principal Byelorussian cities (including Vilnia, which the translator omitted), says to her Son that all these:

Bear testimony
Before the whole world
How we lived and were
**fearless masters**
**In the native land.**

Soviet translation:

They all tell the whole world
Of the people's glory,
Relate of our native land
A heart-felt, thrilling story.

Kupala's original poem, "Son and Mother," can be found in volume four of his 7-volume "Collection of Works" published in Minsk in 1974 (pp. 87-91).

In 1921, when the poem was written, and in the ensuing years Janka Kupala had not been convinced that the Bolshevik revolution brought freedom for his people that he had been calling for. Eventually, brokenhearted, he had to settle for what was the inevitable. Since then Soviet editors and censors have been trying to obfuscate this circumstance by means of either outright prohibition of some of his poems or by delicate and not so delicate shifts in translations of his heritage.

**J. Zaprudnik**

P.S. **Holas Radzimy**, the publisher of **Songs as Clear as the Sky**, welcomes suggestions and comments with regard to this and its other publications. The publisher's address is:

Byelorussian SSR
Minsk
Leninsky Prospekt — 44
"Holas Radzimy"

## AH, BIELARUS

Ah, Bielarus,

The blood of brave men, who fought
and died for you,
flows thru your rivers and lies
upon the ground
to become one within your earth.

Ah, Bielarus,

Your children scattered and driven
to the Sea,
as they cried for help with words
sadly wasted
on those who refused to hear.

Ah, Bielarus,

You are not abandoned,
You cannot be lost to us
You live — Janka lives —
In the written words that spring from
the pages of time,
To fire the blood and quicken
the heart
With love and pride in our
beloved Bielarus.
You live — in the hearts and minds
Of all Bielarusians
We who are one with you forever!

Ah, Bielarus,

As the candle holds the flame,
So the candle of truth allows
The flame of freedom to burn
Ever brighter.

Ah, Bielarus,

Do Not Despair.

**Maryland, 1982** **Judy Bach**

## U.S. DEPARTMENT OF STATE AND MICHAL KUKABAKA

On May 4, 1982 The National Republican Heritage Groups (Nationalities) Council representatives met with Mr. Mel Levitsky, the Deputy Assistant Secretary of State for Human Rights, and Mr. Hugh Simon of the Human Rights Office to discuss a proposal for establishing an independent agency for Human Rights. Ideas were exchanged on how to improve the overall effort of the United States in the area of human rights activities.

The Byelorussian representative Mr. W. Melianovich brought to Mr. Levitsky's attention the question of continued persecution by the Soviet authorities of Mr. Michal Kukabaka. Mr. Levitsky was asked to personally deliver to Mr. Elliot Abrams, the Assistant Secretary of State for Human Rights, an appeal asking the State Department to intervene with the Soviets on behalf of the Byelorussian dissident.

In his letter of June 17, 1982, Deputy Assistant Secretary Melvyn Levitsky thanked Mr. W. Melianovich for additional information on Michal Kukabaka and said: "We will seek to use opportunities such as CSCE (Conference on Security and Co-Operation in Europe) to call it to international attention."

Office of the Mayor
CITY OF NEW YORK

# Proclamation

DURING THE PAST CENTURY, THE BYELORUSSIANS WHO HAVE IMMIGRATED TO OUR CITY HAVE MADE ECONOMIC AND CULTURAL CONTRIBUTIONS THAT ENRICH OUR ECONOMIC DIVERSITY. THEY CULTIVATE A DETERMINATION FOR JUSTICE THAT SERVES AS AN INSPIRATION TO FREEDOM-LOVING PEOPLE EVERYWHERE.

MARCH 25, 1982, MARKS THE 64TH ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC. AMERICANS OF BYELORUSSIAN DESCENT CELEBRATE THIS EVENT ANNUALLY, WITH ACTIVITIES WHICH SUSTAIN THE SPIRIT FOR A FREE BYELORUSSIA AND PRESERVE AND PROMOTE THE TREASURES OF THE BYELORUSSIAN LANGUAGE AND TRADITIONS.

NOW, THEREFORE, I, EDWARD I. KOCH, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, DO HEREBY PROCLAIM MARCH 25, 1982, AS

"BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"

IN NEW YORK CITY.

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

MAYOR, THE CITY OF NEW YORK

**Proclamation of Byelorussian Independence Day 1982 by the Mayor of the City of New York, the Hon. Edward I. Koch. Similar proclamations were issued by the governors of New York, New Jersey, Ohio, and Illinois; the House of Representatives of the State of Illinois; and the mayors of the cities of Chicago, Ill., and Cleveland, Ohio.**

## "THE NAZI CONNECTION": COVERAGE AND REACTION

The CBS broadcast, "The Nazi Connection" (a segment of the popular "60 Minutes," aired in the United States on May 16, 1982, and in Canada the following day) was covered by all major news agencies, wire services, numerous newspapers and magazines. As much as we were able to establish the following publications reported on the broadcast and some related issues:

The Soviet press agency TASS carried a 50-line report mentioning only Loftus' name and that of Stanislau Stankevich. United Press International, Associated Press, and Reuter also reported on the broadcasts.

Of the newspapers the following have written, some extensively, about the broadcast and the issue of war criminals: **Washington Post** (Dale Russakoff, May 17), **New York Times** (Robert D. Hershey Jr., May 17), **New York Post** (Charles Lachman, May 17), **Daily News** (New York, Richard Rosen, May 17), **The Sun** (Baltimore, AP, May 17), **Newsday** (Long Island, N.Y., Combined News Services, May 17), **News American** (Baltimore, News American Wire Services, May 17), **Evening Sun** (Baltimore, AP, May 17), **Chicago Tribune** (Tribune Wire Services, May 17), **Chicago Sun-Times** (Sun-Times Wires, May 17), **Los Angeles Times** (Times Wire Services, May 17), **San Francisco Chronicle** (UP & AP, May 17), **Detroit News** (AP & UPI, May 17), **Toronto Star** (Reuter-UPI, May 17), **The Guardian** (Manchester, England, Reuter, May 17), **Times** (London, Reuter, May 17), **Washington Post** (Thomas O'Toole and Morton Mintz, May 18), **Record** (Bergen, N.J., Record's wire services, May 18), **New York Times** (Philip Taubman, May 18), **New York Post** (brief report and editorial, May 18), **Los Angeles Times** (Ronald J. Ostrow, May 18), **Izvestiya** (Moscow, May 18; brief report, no names beside that of Loftus), **Chicago Sun-Times** (UPI, May 18), **Home News** (New Brunswick, N.J., Jane Furse, May 18), **Daily Telegraph** (London, England, David Shears, May 18), **unnamed newspaper** (Los Angeles Times News Service, May 18), **Sun** (Baltimore, Dan Berger, "Italicisms," May 18), **Novoye Russkoye Slovo** (New York, May 18), **Washington Post** (Thomas O'Toole, May 19), **Svoboda** (Jersey City and New York, in Ukrainian, May 19).

(To be continued)

## IMPORTANT AND TIMELY PUBLICATION

The state of affairs that prevailed almost exclusively in American academic circles in past decades — emphasis on Russian studies, Russian research, Russian programs etc., at the expense of all other non-Russian nations of the USSR — seems to be dissipating in recent years and interests are shifting. A good example of this is the appearance of the **Guide to the Study of the Soviet Nationalities: non-Russian Peoples of the USSR**, edited by Stephan M. Horak and published by Libraries Unlimited, Littleton, Colorado, in 1982.

The publication is an annotated bibliographic guide supplemented with introductory notes and essays on various nationalities and a review article: "Soviet Nationality Studies in North America" by James L. Heizer. The book has separate chapters on the Balts (Estonians, Latvians, Lithuanians), Byelorussians, Ukrainians, Moldavians, Jews, Peoples of the Caucasus, Islamic Nations, Germans, and the Peoples of Siberia.

The chapter on Byelorussians, authored by Vitaut Kipel, following some generalities on Byelorussia, provides suggestions on topics for research such as:

1. The identification of historical Byelorussia and development in terms of ethnographic and administrative boundaries;
2. The history of Byelorussia after it was incorporated into the Russian empire in the second half of the eighteenth century;
3. The Byelorussian national revival and proclamation of Byelorussian Independence, March 25, 1918.

Mr. Kipel then briefly surveys current research on Byelorussia stressing the work of the Byelorussian Institute of Arts and Sciences in the U.S. and Canada and the London-based Anglo-Byelorussian Society, the publisher of the **Journal of Byelorussian Studies**.

The bibliographic section of the chapter on Byelorussians contains 93 items under headings such as general reference works, economy, folklore and culture, education, dissent movement, history, language and literature. The bibliography includes numerous works in western languages on Byelorussians and important works in Byelorussian and Russian languages.

Each entry is annotated and the Byelorussian point of view is presented. An outstanding feature of the bibliography is that the author tries whenever possible to have a "balanced" representation on many subjects. Thus, for example, parallel with the work of Soviet demographer A. Rakau on the population of the BSSR, Kipel lists another work by a Byelorussian emigré specialist A. Bahrovich. The period of the establishment of the Byelorussian Democratic Republic (BNR) is reflected in the works of Soviet historian V. Krutalevich, on one hand, and an American Byelorussian scholar, J. Mienski, on the other. The History of the Academy of Sciences of the BSSR by V. Kuprevich is balanced with publications by H. Niamiha. Literature, language, cuture and general reference works are likewise covered.

This publication is an important step in the direction of providing the American researcher with sources to begin the study of the nationalities of the Soviet Union, a topic which has been neglected in the past. For the Byelorussian reader, especially for high school- and college-level Byelorussian-Americans interested in Byelorussian studies, this book will be a valuable guide, since it not only lists books on Byelorussia, but also suggests topics for study and research.

**Zora Kipel**

This book may ordered from —

Libraries Unlimited, Inc.
P.O. Box 263
Littleton, CO 80160

$30. for U.S.
$36. elsewhere

## CONFRONT ACCUSATIONS WITH FACTS

To the Editor:

As first generation Americans of Byelorussian descent we are writing to comment upon the recent CBS broadcast concerning the Byelorussian "Nazi Connection," the subsequent accounts of this topic throughout the country, and most importantly, the Byelorussian reaction to the attacks that have been levied.

It is well recognized that the best defense is a good offense, and this should be our plan of action. We should not engage ourselves in weak and paranoid self-defenses. Accurately and fully informing the public about Byelorussia and its struggle before, during and after the war will best serve our cause, but we can not afford to be apologetic, nor can we make excuses.

There was a collaborationist "government" in Byelorussia during WW II — we can not deny that — it is a historic fact, but what we must do is tell the public exactly what that government did and why. We should confront the accusations with true facts, many of which will serve to rebut the allegations and point out their inaccuracies.

Furthermore, it is well known that there is no love lost between the Soviets and Byelorussian-Americans. It is fine for us to cry that the Soviets are attacking some of the individuals named in these episodes and that Soviet witnesses should not be believed. The average American, however, would not understand this unless confronted with examples of how Soviet historians operate. A concrete example is the Soviet Encyclopedia's treatment of the American Relief Administration's operations in Byelorussia through the years immediately after the 1917 Revolution — accounts of the same events have been tendentiously rewritten — one need only to read them to understand why Soviet testimony should not be relied upon.

It is obvious that Mr. Loftus did not do his homework with respect to Byelorussia. We suggest that he be invited to some Byelorussian function at which he can learn about Byelorussia and its history and the people he has maligned.

**Alice and George Kipel**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018